№ 74 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 74 (166). Год II. Вільня, 14 верасьня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Каля Баранавіч—жывейшы агонь.

### 13 верасьня.

**Заходні тэатр:**

Наагул — слабая чыннасць.

---

Паручык Фосс у бітве на паветры збіў 47-го ворага.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Лвопольда Баварскаго:* На поўдні ад дарогі Рыга-Вэндэн нашы конные варты адыйшліся перад перэважываючым націскам расейцоў за Морыцбэрг і Нэў Кайпэн.

На поўначы ад Баранавіч, на ўсходзі ад Тарнополя і на Збручу — жывейшы агонь і стычкі.

*Македонскі фронт:* На палудзенным заходзі ад возера Орхіды ўварваліся на горы толькі слабые сілы ворагоў.

---

ЛОНДОН. Войско на расейскім паўночным фронці высказалося за Корнілова, партыя катораго безупынна павялічываецца. С поўдня і с палудзеннаго усходу ён падыходзіць пад Пецярбург і знаходзіцца ўжо ў некольківх вярстох ад Царскаго Села.

Керэнскій аб'явіў асаднае палажэньне і ў Маскве.

Ультіматум Корнілова складаецца з гэткіх пунктаў: аддача ваеннай дыктатуры Корнілову; роспуск усіх рад раб. і салд., у тым ліку пецярбурскай; паварот кары сьмерці у арміі.

ПАРЫЖ. Пецярбурскі гарнізон выступіў на палудзень не паведаміўшы аб гэтым тымчасоваго ураду.

ПЕЦЯРБУРГ (Гавас). Камэндант Пецярбурга, генэрал Васільковскій, разам са сваім штабам цішком пакінуў места.

ШТОКГОЛЬМ. С Пецярбурга даносяць:

Нездавольство узрастае незвычайна шыбка. На вуліцах чутны гутаркі, што патрэбен сільны чэлавек, каб вярнуць лад, і што Керэнскій павінен выйсьці у адстаўку. Гэткіе чуткі распускае англіцкае пасольство праз «Утро Россіі».

Францускі пасол адбыў нараду с пасламі Англіі, Італіі і Амэрыкі аб дырэкторыі.

Цяпер прыпамінаюць дэмонстрацыйны выхад англіцкаго пасла ў часі прамовы Керэнскаго на маскоўскім конгрэссі. С таго часу Букэнен—душа контр-рэволюцыйнаго руху, каторы мае на мэці замяніць правіцельство Керэнскаго ваеннай дыктатурай. Англіцкі пасол здалеў перэцягнуць на свой бок і організаваць генэралоў-монархістоў, кадэтоў і депутатоў цэнтру; аднак, ён высказаўся проці павароту на трон Мікалая і прэдлагае узвясьці на царство Паўла Александравіча, а за яго дачэснаго намесьніка назначыць дыктатара Корнілова.

Пасьля адозвы Керэнскаго аб адстаўцы Корнілова паслы саюзьнікоў усе разам падалі Тэрэшчэнку пратэст проці загадоў Керэнскаго, каторы робіць немагчымым энэргічнае выступленьне Расеі на палях бітв.

БАЗЭЛЬ. Спорка між Керэнскім і Корніловым узнялася на маскоўскім конгрэссі. Там выявіліся ня толькі халодные адносіны Корнілова да Керэнскаго, але і прыхільнасць да Корнілова ўсіх партый направо ад соцыялістоў і прыхільнасць да Керэнскаго—ўсіх левых партый. На мяжы двох абозаў стаяць кадэты, ў каторых узняўся раскол. Правые кадэты згодзіліся на прадложэные Корніловым суровые крокі.

ПАРЫЖ. Утварылося новае міністэрство. Міністэр-прэзыдэнт і ваенны міністэр—Пэнлевэ, міністэр заграні̇чных дзел—Рібо.

БУДАПЭШТ. Міністр - прэзыдэнт Вэкэрле заявіў у вэнгерскім сэймі, што ён правядзе лібэральную рэформу выбарнаго права. Далей дн сказаў: „Мы будзем ваеваць оа канца, каб у будучыне ня толькі бараніць свае інтэрэсы, але і карыстаць с трывалаго міру пры ўзаемнай угодзі.

СОФІЯ. 11.IX. Боўгарская каралева Элеонора памерла а 4 г. 20 м. па-абедзі.

БЭРЛІН. Агенцтво Гавас даносіць з Нью-Іорка:

Проці імператара пачалося сьледзтво аб кражу, падпал, душэгубство і змову проці волі штату Міссісіпі.

„Journal du Peuple" з гэтай прычыны пішэ:

„Чы Вільгэльм II перажыве гэты ўдар?"

---

## Крызіс рэволюцыі.

Выступленьне Корнілова з жаданьнем, каб тымчасовы урад аддаў у яго рукі ўсю цывільную і ваенную ўласць, гэта толькі заведзь тэй вялікай трагедіі, каторая прыгатаўлялася ад самаго пачатку рэволюцыі.

Тое, што расейскаму народу ўдалося скінуць царскую ўласць блізка без праліцьця крыві, здавалося вельмі дзіўным, непадобным да веры. Бо і запраўды трудна было верыць, што рознаплямённае насяленьне Расеі, разкінутае на безмяжовым абшары, магло выступіць гэтак згодліва, каб пры гасударственым перэвароці ня выявіўся клясовы, становы і нацыональны раздзел. І вось, усе тые грамадзкіе сілы Расеі, каторые ішлі поплеч пры **разбіваньні** старога ладу, зразу раздзяліліся, як настаў час **будаваць** новы лад.

Мы ўжо былі сьведкамі выступленьнёў крайніх соцыялістоў, каторые выставілі жаданьне міра і **рэволюцыі «да канца»**—значыць, да перастройкі ня толькі палітычнаго ладу, але і грамадзкаго на аснове соцыялізму. Тымчасовы урад выступіў проці іх вельмі востра, разбіваючы гэтые выступленьня аружнай сілай.

То была першая крывавая жэртва на алтары рэволюцыі. Але яна аказалася дарэмнай: ня гледзячы на тое, што кожын дзень далейшай вайны ўносіць усё глыбейшый развал у грамадзянстві новай Расеі, тымчасовы урад не змяніў свайго становішча **«вайна да канца»** і, ня гледзячы на офіцыальнае адрачэньня ад заваевацельных мэт, пачаў наступленьне у глыб Галічыны. Гэта вызвало адпор са стараны крайніх левых, вызвало пратэсты у арміі і адмову цэлых часьцей войск ісьці ўпярод і скончылося тым, чым павінно было скончыцца: поўным разгромам расейскіх сіл і утратай Галічыны.

Тады пачалася новая крывавая расправа: паводлуг газэтных вестак, ваенные суды загадалі расстрэляць 20.000 расейскіх салдатоў за неслухмянасць і выступленьня проці тымчасоваго ураду. Кара сьмерці, каторую рэволюцыйны урад скасаваў у першы момэнт рэволюцыі, вярнулася ў поўнай меры. Вярнуліся і ўсе старые способы «усьмірэньня», гэткіе ненавісные народу ад часоў самадзержавія.

Здаецца, нельга было выдумаць лепшаго способу агітацыі проці тымчасоваго ураду, чым тая палітыка, якую ён павёў. І вось—перад намі рэзультаты яе.

Расейская армія, дагэтуль аднадушна стаяўшая за рэволюцыю і тымчасовы урад, раздзялілася. Сьледам за адмовай Керэнскаго аддаць ўласць генэралу Корнілову, гэты апошні павёў прыхільные яму дывізіі на Пецярбург. І мо' ў той самы момэнт, як мы пішэм гэтые словы, у Расеі пачалася ўжо **ўнутрэная вайна**—вайна між войскам, верным тымчасоваму ураду, і арміей Корнілова.

У імя чаго выступіў Корнілов? За якую ідэю? Якога ладу хочэ ён у Расеі? Мы яшчэ ня ведаем. Чы гэта—пачатак контр-рэволюцыі на карысць скінутаго царызму, чы жаданьне аднаго дыктатара, Керэнскаго, замяніць другім, Корніловым? На гэта німа адказу. Але ясна адно: у рэволюцыйнай арміі пачаўся раскол, каторы Корнілов роўна лёгка можэ выкарыстаць дзеля сваіх асабістых мэт, як і дзеля павароту царскай уласьці.

Не дарма пецярбурская рада работнікоў і салдатоў утварыла спэцыальны камітэт абароны здабычаў рэволюцыі, не дарма крайніе соцыялісты — «большэвікі» — прачыталі на заседаньні рады дэклярацію, абвешчаючы сваю солідарнасць з усей рэволюцыйнай дэмократией і сулячы аддаць сваё жыцьцё дзеля ратунку Расеі: у момэнт поўгадоваго юбілею расейская рэволюцыя перэжывае самы востры крызіс.

*І. М.*

---

## Хто вінават?

Карэспандэнцыя з Беластоку, надрукованая у апошнім нумэры «Гомана», звертае увагу на вельмі цяжкое палажэньне беларускай праваслаўнай беднаты ў межах окупацыі. Пакідаючы наш край, старое расейскае правіцельство ня толькі не пакінуло ні граша на помач тэй беларускай беднаце, каторая, хоць бы і хацела, не магла выехаць з родных кутоў, — але і зрабіло ўсё, каб праваслаўные беларусы асталіся без ніякай апекі, без інтэлігэнтных сіл, каторые маглі-бы ў патрэбе заступіцца за іх, главнае-ж — без духавенства. Пад той час, як каталіцкіе ксяндзы безмала ўсе асталіся у сваіх парахвіях, расейскіе ўласьці не пакінулі на вёсцы ніводнаго праваслаўнаго сьвяшчэніка, і толькі ў Вільні і Гродні асталося іх, здаецца, трое ці чацьвёра — гэта на колькісот тысяч праваслаўных беларусоў!

Пры такіх варунках ядынай установай, каторай зусім натуральна было бы прыняць на сябе апеку над пакінутымі гэтак ганебна праваслаўнымі беларусамі, быў Беларускі Камітэт, меўшый на мэці аказваць помач ўсім бе-

ларусам бяз рожніцы веры. Камітэт гэты, заложэны ў пачатку лета 1915 году ў Вільні, за першые месяцы свайго жыцьця — да прыходу немцоў — выявіў значную рухавасць, памагаючы беларускім уцекачом с фронту устроіцца ў больш спакойных беларускіх губэрнях і ладзючы свае аддзелы на правінціі (больш дзесяці). На жаль, энэргічная організацыйная праца Камітэту аказалася дарэмнай: расейскіе установы, раздаваўшые сотні тысяч рублёў усім іншым нацыональным камітэтам, аб'явілі Беларускаму Камітэту поўны бойкот, а за прыватные складкі, збіраные між беларускім грамадзянствам, с прычыны трудных зносін ваеннаго часу нельга было зрабіць нешта больш сур'ёзнае. І ў момэнт адходу расейцоў Беларускі Камітэт астаўся без капейкі ў кассе, а немагчымасць знасіцца с правінціей, недахватка інтэлігентных сіл па мястэчках і вёсках аканчацельна звязала рукі віленскай організацыі.

Толькі гэтым тлумачыцца факт, што гродзенскіе праваслаўные беларусы і дагэтуль не організованы, а каталікі «ўзяты ў пахт» палякамі, што гэта-ж было ў Беластоку, пакуль нашых праваслаўных братоў не організаваў на рэлігійным грунці лютэранскі пастар. Гэтым тлумачыцца і факт істнаваньня ў Вільні побач з Беларускім ешчэ Праваслаўнаго Камітэту, хаця яны маюць зусім адзінакавые задачы і рожняцца толькі тым, што Беларускі Камітэт аказвае помач роўна праваслаўным і каталіком. Да гэтаго трэба дадаць, што Праваслаўны Камітэт атрымлівае праватную пастаянную грашавую падмогу, каторай пад іншай фірмай беларуская праваслаўная бедната не дастала бы. Беларускі-ж Камітэт мае сам і таго менш...

Гэтак зрабілося тое, што мы бачым у Беластоку, Гродні, што робіцца па беларускіх праваслаўных вёсках. Німа каму паказваць нашаму народу дарогу да змаганьня з усімі нялічэнымі бедамі ваеннаго часу. Німа інтэлігентоў, німа праваслаўных сьвяшчэнікоў, а людзям іншай веры праваслаўны беларус веры не дае, хоць-бы той яму гаварыў шчырую праўду. І за ўсе нешчасьця, ўсе беды, які беларуская праваслаўная бедната перэцярпела і церпіць сягоньня, яна павінна «падзякаваць« тым царавым слугам, каторые, пакідаючы наш Край, засудзілі народ на голад, холад і паняверку.

*Г. Б.*

# У Вільні і ваколіцах.

—

× **Палітычны мітынг** дзеля выясьненьня палітычнаго палажэньня Літвы цяпер і ў будучыне адбудзецца ў нядзелю, 16 верасьня, а 6 гадз. вечара, ў канцэртнай салі Работніцкаго Клюбу, Вароньня 5.

Уход на мітынг — па білетам організацыйнаго камітэту, бюро каторага адкрыто ў Работніцкім Клюбе, Вароньня 5, ад 12 да 1 гадз. 14, 15 і 16 верасьня. Білеты выдаюцца ў бюро і у членаў організацыйнаго камітэту.

× **«Для Літвы»**. „Dz. Pozn.“ даносіць, што на пытаньне «генэральнаго камітэту помачы ахвярам вайны ў Польшчы», заложэнаго ў Вэвэй (у Швэйцарыі), як павінны быць раздзелены грошы, сабраные па загаду Папежа 20 мая па ўсіх каталіцкіх касьцёлах сьвету для Літвы, Папеж адказаў, што ён жадае, каб грошы тые «былі раздзелены між усімі жыхарамі без ніякай рожніцы, прымаючы пад увагу не адменнасць языкоў, а ўсё насяленьне цэлком».

С прычыны таго, што на ўсім сьвеці пад словам «Літва» разумеюць колішняе незалежнае Вялікае Князьство Літоўскае, зложэнае з зямель этнографічна літоўскіх і беларускіх, мы маем поўнае право ждаць, што і беларусам будзе выдзелена адпаведная іх чысьленасьці і патрэбам часць і што жаданьне Папежа, як організатара збору, ня будзе нарушэно ані вытлумачэно фальшыва тымі, каму даверэн раздзел грошы: жаданьне Папежа — лішне выразнае, каб яго можна было-бы тлумачыць такім або сякім спосабам.

× **Дар літвіном**. Начальнік упраўленьня Litaüen ад імі Oberbefehlshaber'a Ost даў літоўскаму камітэту помачы ахв. вайны дзеля раздачы патрэбуючым грамадам і парахвіям Літвы 300.000 марак

× **Беларускае Таварыство «Золак»**. Нямецкімі ўласьцямі зацьверджэн статут Беларускаго Таварыства Апекі над дзяцьмі, пад найменьнем «Золак». 8 го верасьня адбыліся выбары Ураду Таварыства. На маршалка выбран п. Вінцэнт Сьвятополк-Мірскі, на віцэ-маршалка п. Вацлаў Ластоўскі, на скарбніка п. Дора Кастровіцкая, на пісара п. Станіслава Корфф; члены ураду: п. Станіслава Камінская, п. Антон Глеб і п. Ян Русецкі. На членоў рэвізыйнай камісіі выбраны: п. А. Водзінскі, п. В. Амброс, п. В. Боркоўскі і п. Б. Драмовіч.

Мэта Таварыства «Золак»—тая, што і Беларускаго Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны. Членская складка ў год 5 марак. Членоў прыймае урад па рэкомэндацыі двох членоў Таварыства. Тымчасова Урад Таварыства месьціцца пры Беларускай Кнігарні, Завальная вуліца 7.

× **„Гісторыя упраўленьня занятымі землямі“**. Б. начальнік упраўленьня Бэльгіі, ф. Сандт, атрымаў ад нямецкаго ураду загад пісаць гісторыю окупацыі Бэльгіі, Польшчы і Літвы.

× **Жыдоўскіе пекарні** будуць зачынены 17, 18, 26 верасьня і 1, 2, 8 і 9 кастрычніка. З гэтай прычыны там трэба браць хлеб загадзя.

× **Прадажа мяса жыдом**. С прычыны надыходзячых жыдоўскіх сьвят жыдоўскаму насяленьню прадаюць мясо замест у панядзелак, 17 верасьня, ўжо ў чэцьвер і пятніцу на гэтым тыдні.

× **Выплата „пайка“** сем'ям асоб, узятых на вайну, за месяц жнівень будзе адбывацца у III аддзелі ураду дзеля бедных пры нямецкім Stadthauptmann'e Вільні, Домініканская 2, пакой № 143, ад 8 да 12 раніцай і ад 4 да 7 гадз. вечара ў гэткіе дні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| для 4 | цыркулу — | 17, 18 і 19 | верасьня |
| „ 6 | „ | 20 | „ |
| „ 7 | „ | 21 | „ |
| „ 8 | „ | 22 і 24 | „ |
| „ 1 | „ | 25 | „ |
| „ 5 | „ | 26 і 27 | „ |
| „ 3 | „ | 28 | „ |
| „ 2 | „ | 29 | „ |

Асобы, каторые ня возьмуць пайка ў паказаные вышэй дні, павінны явіцца за ім 1 і 2 кастрычніка ў гадзінах чыннасьці кассы. Пасьля 2 кастрычніка падмогі за жнівень выдаваць ня будуць.

× **Скорая помач**. У прошлым тыдні ад 4 да 10. IX скорая помач дадзена у 57 прыпадках, у тым ліку было 29 выездоў карэткі і у 28 прыпадках помач дадзена на станціі.

× **За укрываньне цэн выстаўленых у вокнах тавароў пакараны**: Мозэс Рэхлес, Нямецкая 31; Анна Цэльфарб, Нямецкая 31; Сара Ёспэ, Віленская 21.

× **Фальшывые грошы**. За апошні час у Вільні з'явіліся фальшывые „нямецкіе“ 25-рублёўкі. Фальшывые грошы зроблены рукой фарбамі, чарнілам і тушовым алуўком.

× **Кража каня**. У начы на 12 верасьня з незачыненай стайні на Зарэчнай 5 укралі каня—каштана 7 гадоў.

× **Пажар.** У начы с панядзелку на аўторак каля г. 11-ай загарэўся дом Лукашэвіча (Троцкі гасьцінец № 72). Пажар пачаўся ад гаршка с кепска згашэнымі вуглямі. Хутка ўся дзерэвяная пастройка апынулася у вагні. Прыбыўшая пажарніцкая дружына праз 1½ гадз. агонь згасіла.

× **Пагода ў жніўні.** Жнівень заканчывае ў нас лето. Раўнуючы да халоднаго ліпня, сёлетні жнівень паказваў высокую тэмпэратуру. Але гэта не магло перашкодзіць шыбкаму набліжэньню зімы, каторая ўжо стаіць на парозі. Мы павінны ждаць у найбліжэйшых днях першых замаразкоў.

Сярэдняя тэмпэратура ў жніўні была: а 5 гадз. ран. + 14,5°, а 2 г. пааб. + 22,8°, а 8 г. веч. + 17,8°. Найвышэйшая тэмпэратура за ўвесь месяц была 2 жніўня а 2 гадз. пааб.: + 29°. Найніжэйшая — 24-го а 5 г. раніцай: + 9,7°. Вышэй 25° было: 1, 2, 15 і 20 жніўня.

Асадкоў было толькі 61,2 міл. проці 139,8 у ліпні. 17 дзён было сухіх. Найбольш мокры дзень быў 15 (15 міл.). 1, 5, 11, 15, 21, 22 былі навальніцы.

Наагул, аб жніўню можна сказаць: ён споўніў усе узложэные на яго надзеі. Кожын гаспадар мог быць ім вельмі здаволен. Агуркі ўдаліся лепш, чым можна было ждаць. Ураджай фруктаў, наагул, добры. Збор зерна зусім добры. Салома крыху слабая. Затое бульба вельмі добрая.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 9—10 | + 23° | + 11,5° |
| 11—12 | + 13° | + 4,5° |

# Офіцыяльны аддзел.

Вільна, 9 верасьня 1917 г.

## Апавешчэньне.

**500 марак награды.**

У начы с 1 на 2 верасьня каля 10 гадзіны трое ліхадзеяў, вельмі можэ быць, уцёкшые расейскіе ваенна-палонные, ўварваліся ў дом гаспадара Пэтра Янушаніса ў Рудзе Мачкоўскай, Сэйнэнскаго пав.,

# I. Мітычные і абрадавые песьні.

(Гл. «Гоман» № 73).

### 8) Вяликодные песьні.

**Валачобная.**

А на першы дзень, на Вялікдзень,
А збіраліся удалы малойцы,
Сабраўшыся рахаваліся,
Зрахаваўшыся шыхаваліся,
А сабраўшыся, зшыхаваўшыся,
Пайшлі яны ўсё дарожкаю
Ўсё дарожкаю, ўсё шырокаю,
Ўсё мураўкаю, ўсё зялёнаю.
Сустрэлі яны Госпада Бога
З усімі сьвятымі і Прачыстаю.
Госпаду Богу пакланіліся,
Пакланіліся, пакарыліся,
Пакарыўшыся папыталіся,
А пыталіся слаўнаго села,
Слаўнаго села (*названьне*),
А ў тым сяле слаўнаго пана,
Слаўнаго пана, пана гаспадара.
А пан гаспадар прыбіраецца,
Ен прыбраўшыся дый сеў сабе,
А сеў сабе за столікам.
Перад ім стаяць тры сыночкі яго,
Тры сыночкі яго, ды ўсё пісарочкі!
А не ластавіца то палётуе,
Сама гаспадыня паходжуе,
А сваіх служак ўсё пабуджвае:
„Служкі мае вярненькіе!
„Устаньце, не ляніцеся,
„Не ляніцеся, падыміцеся,
„А памыйцеся, прыбярыцеся,
„А ідзіце вы да цэркаўкі,
„Да цэркаўкі Богу маліцца,
„Богу маліцца, Хрысту кланяцца.
„А с цэркаўкі да стаенькі,
„А ў стаенцы Божая радасць,
„Божая радасць прыявілася:
„Сорак кабылак жэрабілося,
„А ешчэ столькі назначылося.
„А цяпер да кароўнічку,
„А ў кароўнічку Божая радасць:
„Сорак каровак ацялілося,
„А ешчэ сорак назначылося“.
А патом таго, слаўны пане,
А чымжэ ён славен:
Ці сваім дабром, ці сваім гумном?
А славен-жэ ён ды сваім дваром:
А ў яго на дварэ прыстол стаіць,
На прыстолі сам Бог сядзіць,
Сам Бог сядзіць, сьвяткі лічэ.
Аднаго сьвятца ды не далічыўся,
А недалічыўся ён сьвятога Юр'я.
„А каму-ж ехаць Юр'я шукаці?“
—„Ехаць шукаці Благавешчэньню!“
—„Я каня не маю, Юр'я не знаю!“
„Ехаць шукаць сьвятому Вялічку!“
—„Каня не маю, Юр'я не знаю!“
„Радаўніцы ехаць Юр'я шукаць!
—„Я каня маю і Юр'я знаю!“
Толькі Радаўніца за вароты,
Сьвяты Юрый у вароты.
„Чалом, чалом, сьвятый Юрый!
Дзе сьвяты Юрый прызабавіўся?“
—„Па межах хадзіў пашню радзіў,
Ярую пшонку сьвятому Вялічку,
Сьвятому Вялічку на белы пірожкі“.
„А дзе болей хадзіў?
—„Па барох хадзіў, пчолкі садзіў:
На сто калод насадзіў,
А ешчэ на сто нагатовіў!“
А патом таго, слаўны пане,
Адчыні вакно, паглядзі у поле:
Па тваей ніве сам Вог ходзіць,
Сам Бог ходзіць, пяць асоб водзіць:
Перша асоба — сьвятый Юрый,
Другая асоба — сьвятый Мікола,
Трэйця асоба — Тройца Сьвятая,

забілі гаспадара і дзіця і цяжка ранілі пяцера членаў сям'і. Як сьведчаць раненые, адзін з забойцаў быў у крымскай шапцы і нямецкім ваенным плашчу, а на рукаве меў знак ваенна-палоннаго. Двое другіх ня мелі ваеннай формы. Усе яны гукалі парасейску. Хто задзержыць ліхадзеёў або памочнікоў іх ці дасць ведамасць аб іх асобах або мейсцу бытнасьці, паводлуг каторых можна будзе іх арэштаваць і пакараць, таму дадуць награду да 500 марак.

Усе ведамасьці трэба падаваць Krejshaŭptmann'у ў Сэйнах.

Цяжкіе кары ждуць кожнаго, хто дасць ліхадзеям або іх памочнікам схоўку і помач.

Der Chef der Militär-Verwaltung
Litaŭen
Franz Josef Fürst von Isenburg-Birstein.

# З усяго Краю.

**Адказ за дзяцей.**

С прычыны узросту чысла праступкоў, учыненых нялетнімі, апавешчаецца, што па закону адпаведаюць бацькі і апякуны гэткіх дзяцей і за праступкі іх абязаны вярнуць шкоду, ды апрыч таго могуць быць пакараны вастрогам.

**Ачыстка равоў.**

С прычыны нізкай вады ў зямлі і спадзеваных дажджоў цяпер самая пара чысьціць і паглыбляць равы.

---

ВЕЛІЧАНЫ (пад Вільняй). 1 мая таго году віленская жыдоўская грамада адкрыла тут жыдоўскую сельска-гаспадарскую школу, ў каторую хадзілі 60 хлапцоў. Яны там аселі і былі гэтак здаволены, што асталіся і на зіму. Калі ў тым гаду са стравай было скупавата, дык сёлета маладзёж мела плёны сваей працы і магла падмацаваць атрымліваную ад нямецкай уласьці порцію.

ЛІДА. Аб тутэйшым жыцьці можна судзіць паводлуг адбыўшыхся адна за аднэй урачыстасьцей, як публічнае гуляньне, выстаўка штукарства, сход пяўцоў і сьвято спорту. На выстаўцы можна было бачыць каля 800 экспонатоў.

ЖАЛУДАК. Адзін жандар задзержаў у тутэйшых ваколіцах гандляра Л. Ш. Агледаючы яго воз выкрылі, што яго воз меў двайны спод. У тайніку знайшлі 50 бутэлек гарэлкі, 15 ф. цукру і 10 ф. газы.

ГРОДНЯ. На карысць дабрачыннаго саюза «Шар Гэзро» аматары жыдоўскаго штукарства ставяць камічную опэрэтку «Мыльны Пузыр».

«Grodn. Ztg.» прызывае жыхароў Гродні, ў каторай вельмі многа гародаў, даўшых сёлета багаты збор, прыгатаўляць гародніны на зіму. Газэта канчае сваю раду славамі: «Хто гэтаго ня зробіць, ніхай сам сябе вінаваціць, калі вясной ня будзе мець чаго есьці». Аб сёлетнім ураджаю можна судзіць паводлуг таго, што было многа спроб вывазіць адгэтуль агуркі і інш. контрабандай.

Беластоцкі нямецкі тэатр будзе тутака іграць.

ГРОДНЯ. З Нямеччыны сюды прывязьлі першаклясоваго кнура дзеля паляпшэньня тутэйшай пароды сьвіней. Яго трымаюць пры бойні. Бедные могуць карыстаць з яго безплатна.

У нядзелі і сьвяты ўсе крамы павінны быць зачынены ад ½10 да 12 гадз. За неслухмянасць цяжка караціму[ц]ь.

БЕЛАСТОК. Кражы ў фабрыках раменных паясоў трываюць далей. За апошніе месяцы украдзены каля 60 паясоў рознай велічыні.

Гэтымі днямі ў аднэй фабрыцэ пры Струкоўскай вуліцы укралі зразу 4 паясы цаной 800 м.

БЕЛАСТОК. У аднэй краме пры Купецкай вуліцы укралі 700 аршыноў сукна цаной 6.000 марак.

У аднаго тутэйшаго жыхара з Аллейнай вуліцы адзін муляр украў 2.100 руб. грашыма і апрыч таго цэнные паперы. Абвін авачэны у зладзействе, ён вярнуў 1.900 р., а 200 р. ужо пасьпеў распусьціць.

САКОЛКА. Ужо некольκі месяцоў тут дзеля жыдоўскай беднаты працуе жыдоўская страўня для дзяцей. Кожын дзень пад даглядам 4 тутэйшых дам выдаюць тут абеды каля 270 дзецям ад 6 да 14 гадоў. Дзеля здабыцьця грошы ўрад страўні гэтымі днямі арганізаваў два музыкальна-драматычные вечары, даўшые добры даход.

КОЎНА. „Kown. Ztg." жаліцца на вельмі первабытные студні з жураўлямі ў нашым краю. Агіпцяне ўжывалі іх ужо 4.000 гадоў таму назад. Помп у сёлах зусім не ўбачыш, ды нават у местох яны ёсць ня ўсюды.

У канцэлярыі афіцэра гаспадарскаго аддзелу, вул. Гіндэнбурга 39, укралі дрэўляную скрынку з грашыма. У ей было 2.270 м. 35 фэн. За знаход і аддачу грошы, хаця бы часьцю, будзе заплочэна дзесятая часць украдзенай сумы.

КОЎНА. У ваколіцах Коўны аб'явілося вельмі многа варон. Яны, мусіць, наляцелі сюды с суседніх лясоў, дзе былі ўсё лето ажно да халаднейшай пары.

На вуліцы Людмілы, перад домам № 77, знайшлі толькі-што нарадзіўшаеся дзіця. Шукаюць матку.

КОЎНА. Цывільная почта адгэтуль памешчаецца пры вуліцы імпэратара Вільгэльма ў доме № 17.

СУВАЛКІ. Начальнік школьнаго аддзелу пры Militär-Verwaltung Litauen, Stefens, рабіў тут рэвізію школ.

АКРУГЛАЕ. У гаспадара А. Цэглінскаго і гаспадыні Ольшэўскай у тую пятніцу укралі каней. Сьляды вядуць у Нямеччыну.

ОЛІТА. Гэтымі днямі тут першы раз заседаў сувальскі акружны суд. Разгледалі неколькі спраў аб разбоі і цяжкіе кражы з узломам.

КАЛЬВАРЫЯ. Пры шоссэ між Сувалкамі і Кальварыей знаходзіцца так-званая Літоўская Швэйцарыя. Імператар Мікалай I, едучы у Прусы, быў здзіўлен характвом тутэйшых ваколіц і назваў іх «Швэйцарыей».

МІТАВА. Тутэйшае грамадзянство ў памяць заняцьця немцамі Рыгі ладзіць „дзень кветкі". Букецікі кветак будуць прадаваць па 20 фэн. за штуку.

МІТАВА. У куце старась вецкаго рынку каля ратуша нямецкіе салдаты пабудавалі студню-памятнік. Гэта—адна с цікавейшых рэчэй у горадзі.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ШТОКГОЛЬМ. Новы расейскі глаўнакамандуючый Клембовскій 4 тыдні таму назад заявіў радзе раб. і салд., што **новая ваенная зіма—немагчыма,** і вайна скончыцца ў найбліжэйшым часі.

АПАРАНДА. У Пецярбурзі ходзяць чуткі аб забіцьці Керэнскаго. Кожын момэнт ждуць пачатку ўнутрэнай вайны. Корнілов збірае навакол сябе буржуазные элемэнты. Асаднае палажэньне будзе назначаць глаўнакамандуючый, а не ваенны міністр. Тымчасовы ўрад маніцца выслаць с Пецярбурга капіталы пецярбурскіх банкоў і урадовых установ,

Між Лугай і Пецярбургам раскінуты рэльсы на чыгунцы. У Лузе (100 вёрст ад Пецярбурга) ужо з'явіліся пярэдніе атрады Корнілова.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Урад разаслаў цыркуляр усім урадовым камісарам у правінцыі, выясьняючы палажэньне. У сваей адозве да пецярбурскай арміі Керэнскій кажэ, што Корнілов здрадліва выкарыстаў веру нацыі. Міністэр працы, Скобелев, выпусьціў адозву да ўсіх работнікоў Расеі, прызываючы іх стаяць за урад.

Генэрал Денікін і яго штаб арэштованы у сваіх кватэрах.

Балтыцкі флот заявіў, што ён стаіць за урад.

Віцэ-прэзыдэнт міністроў, Некрасов, заявіў карэспандэнту газэт, што Пскоў—на старане ураду. Корнілов ашукаў салдатоў, сказаўшы, што трэба ісьці ў Пецярбург дзеля ачысткі сталіцы ад большэвікоў. Разам с Корніловым працуе генэрал Луковскій, каторы прыгатаваў усё гэтае выступленьне. Некрасов закончыў гутарку славамі: «Уся старонка стаіць за Керэнскаго, каторы бароніць рэволюцыю проці рэакціі с Корніловым наперадзі«.

Міністэр сельскай гаспадаркі, Чэрнов, заявіў, што дзеля палітычных прычын ён выходзіць у адстаўку.

Мілюков і генэраліссімус Алексеев браліся быць пасрэднікамі між Керэнскім і Корніловым. Керэнскій іх пасрэдніцтва не прыняў. Гэтак сама Керэнскій адмовіўся споўніць просьбу кадэтоў аддаць урад у рукі Алексеева і пачаў перэгаворы з радай работнікоў і салдатоў. Есць надзея, што ў новым габінэці соцыалісты будуць мець вялікую перэвагу.

Загадано арэштаваць Корнілова і яго штаб.

Пецярбурскіе газэты пішуць, што першые атрады Корнілова ужо дайшлі да Гатчыны. Паводлуг іншых вестак, да Корнілова прылучыўся генэрал Клембовскій і іншые генэралы палудзеннаго і палудзенна-заходняго фронту. Корнілов маніцца у склад свайго міністэрства запрасіць члена I Думы Аладіна.

„Новое Время" закрыто за тое, што яно надрукавало адозву Корнілова ўсю, а адозву Керэнскаго—толькі у адрыўках.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). Міністэрство пастанавіло утварыць урад—дырэкторыю с Керэнскаго, Некрасова, Савенкова. Скобелева і Тэрэшчэнка. Савенков будзе і губэранатарам Пецярбурга.

БЭРН. «Bund» даносіць:

У Пецярбурзі выкрылі вялізарную монархістычную організацію «Сьвятая Русь». Орган яе—закрытая газэта «Гроза». «Гроза» адкрыта пісала, што толькі цар можэ даць Расеі хлеба і мір, ды што

---

Чацьвёрта асоба — сьвятый Пятро,
Пятая асоба — сьвятый Ільля.
А сьвятый Юрый са расіцаю,
Са расіцаю жыто зараджае.
А сьвятый Мікола с шаўковай травой,
Шаўковай травою скот напасае.
Тройца сьвятая жыто высыпае,
А сьвятый Пятро з дробным дажджом,
А сьвятый Ільля з залатым сярпом,
Залатым сярпом жыто зажынае,
Жыто зажынае, гаспадара пагукае:
„А куй сярпы залаценькіе
Сабірай жнеі маладзенькіе!"
Часты, густы на небі зоры,
Часьцей, гусьцей на ніве копы!
А-й высок ды вялік ясен месяц,
А вышэй таго у гумне стагі,
У гумне стагі ў пана гаспадара
А патом таго, слаўны пане,
Не кажы таміць, ды кажы дарыць!
А нашы дары не вялікіе,
Не вялікіе дый не малые:
Пачынальнічку чырвон злоты,
А сьпевальнічкам па дзесятачцы,
А механошу чвёртка жыта,
А мужыкова горкая доля —
Кварта гарэлкі, сыр на талеркі!
Хрыстос ўваскрос, Сын Божы!

**Валачобная, павітаньне гаспадара.**

I.

А йшлі-прайшлі валачобнічкі,
А зялён дубе ў дуброві (пасьля кожнай
[штрофкі).
Пыталіся харошаго села,
Харошаго села, Грыгорава двара.
А чый то двор, што зялезный тын,
А зялезный тын, медзяны вароты,
Падваротнічкі—рыб'і костачкі?
А ці дома, дома пане гаспадару?
— А ён дома ды не кажэцца,
У каморцы прыбіраецца.
Надзяець сьвіту шоўкам шыту,
Падперазуе пояс шамшалёвенькій,
Надзяець шапку бабровую.
Калі хочэш дарыць, пусьці ў хату,
А мы госьці не дакучлівые,
Разочак у гадочак супроці лета.

II.

Добры вечар, чэсны пане,
Чэсны пане, пане гаспадару!
Ці пазволіш песьню спеці,
Песьню спеці супроці лета?
Ідуць-гудуць валачобнічкі
Спеваючы, гукаючы
Слаўнаго пана шукаючы.
„Чы ў дому-дому, пане гаспадару?"
А пан гаспадар ў дому на падвор'і,
Седлае каня варанога,
Едзе ў поле жыто глядзець.
Спатыкае яго Юр'я з Міколай.
Ня едзь пане гаспадару,
Тваё жыто даўно агледжэно:
Пры дарозі удалося,
За гарою ў трубы павілося.
Дайжэ, Божэ, пане гаспадару,
Жыці-быці, жыто вазіці,
Жыто вазіці, ў торпы лажыці,
У торпах укладна,
На таку ўмалотна,
На таку ўмалотна;
У арудзе прысыпна;
У арудзе прысыпна,
У пячы прысушна,
У пячы прысушна;
У млыне прымолна;
У млыне прымолна,
У дзяжы падыходна;
У дзяжы падыходна,
У пячы румяна;
У пячы румяна,
На стале сытна;
На стале сытна,
У сям'і змірна!

англічане і французы—ворагі Расеі. Кіраўнікамі організацыі былі: лекар Протопопова, Бадмаев, і б. рэдактар «Земшчыны», Злотнікоў.

ШТОКГОЛЬМ. На пагранічнай між Расеей і Швецыей станцыі расейскіе салдаты задзержалі вагон з высланымі з Расеі монархістамі. Што з імі зрабілі, невядома.

ШТОКГОЛЬМ. Расейская ваенная цэнзура ня будзе надалей дапускаць у газэты прыватных вестак з ваенных тэатроў. Офіцыяльных ваенных апавешчэньнёў нельга друкаваць з заметкамі ад сябе.

БАЗЭЛЬ. Рэзолюцыя апошняго з'езду фінляндзкіх соцыялістоў кажэ, што Фінляндзыя павіна быць незалежнай рэспублікай побач з вольнай Расеей. Экономічная звязь між абедзьвымі старонкамі не павінна разрывацца.

КОПЭНГАГА. «Реч» друкуе весткі аб аграрным руху на Валыні, дзе зьнішчэно шмат цукраварэнь.

„Бірж. Вед." пішуць, што с папероў памершага Штырмэра будуць апублікованы сэнсацыйные данные з гісторыі вайны. Калі Штырмэр быў міністрам-прэзыдэнтам, цар папраўдзі хацеў зрабіць сэпаратны мір з Нямеччынай.

КОПЭНГАГА. Арэштаваным вялікім князём пазволілі выехаць за граніцу с тэй умовай, што яны абяжуцца не вертацца ў Расею. Генералу Гурко загадано выехаць з Расеі, і ён пакінуў Пецярбург.

## З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурскіе газ. даносяць, што урад рады раб. і салд. адмовіўся прыняць учасьце у Штокгольмскай конфэрэнціі, бо на ёй ня будзе Англіі і Франціі.

ПАРЫЖ (Гавас). Прэдстаўнікі парлямэнцкай соцыялістычнай групы заявілі міністру Рібо, што яны ня хочуць увайсьці да новаго міністэрства.

Міністэр Тома заявіў, што з гэтай прычыны і ён ня можэ астацца ў міністэрстве.

Прынімаючы гэта пад увагу, Рібо адмовіўся ад утварэньня новаго правіцельства.

ПАРЫЖ. (Гавас). Пэнлеве заявіў прэзыдэнту Пуанкарэ, што і ён не бярэцца утварыць міністэрство. На просьбу Пуанкарэ ён згодзіўся зрабіць ешчэ адну спробу утварыць міністэрство.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**10. IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі і ў Артуа ад часу да часу сільная артылерыйская чыннасць і мейсцовые атакі, каторые былі адбіты. Пры Вільрэ, на поўначы ад С. Кантэн, англічане на вузкім фронці адціснулі нашы варты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На паўночным фронці Вэрдэну ў дзень пешые бітвы. На ўсходзі ад Самонье, наабапал вяршыны 344, мы ўварваліся ў варожые акопы, узялі 100 палонных і вызволілі наш узвод, каторы французы 7 верасьня акружылі з усіх бакоў. Ворагі мелі цяжкіе страты. У лесі Фосс і Шом — вострые бітвы штыкамі і ручнымі гранатамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Між Рыжскім залівам і Дзьвіной удачные стычкі нашых варт з расейскімі атрадамі.

*Фронт эрц-герцога Іозэфа*: Між далінамі Тротуса і Ойтоса расейскіе і румынскіе сілы атакавалі здабытые намі пазыціі, але былі ўсюды адбіты, панёсшы цяжкіе страты.

*Македонскі фронт*: На паўночным заходзі ад в. Малік нашы сілы пад французскім націскам адыйшлі на вяршыну на палудзенным заходзі ад возера Орхіда.

У жніўню мы утрацілі 64 самалёты і 4 прывязные лятучые шары. Нашы ворагі за гэты час утрацілі 295 самалётаў, у тым ліку 126 за нашым фронтам, і 34 прывязные лятучые шары.

**11. IX. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі, ля мора і ў завароці Іпра артылерыйская бітва йдзе з вялікай сілай.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пад Рэймсам і на некольких адрэзках у Шампані прыгатаваные сільным агнём наступленьня французскіх атрадоў адбіты. На ўсходнім беразі Маасу вялікіе французкіе сілы штурмавалі на фронці лясоў Фосс-Шом. Контратакай і зашчытным агнём яны былі адбіты. У некаторых пунктах мы нават пасунуліся ўпярод.

Лейтэнант Фосс збіў учора сваіх 43, 44 і 45 ворагоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Між морэм і Дзьвіной — чысьленые стычкі. Мы ўзялі палонных.

*Фронт эрц-герцога Іозэфа*: На палудзеннай Буковіне расейцы мелі мейсцовые ўдачы пры Солцы.

**12. IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі, у Артуа і на поўначы ад С.-Кантэн у вечары крапчэў агонь.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пасьля сільнаго агня французы значнымі сілами рабілі разведкі наабапол Сом-Пі-Суэн, у Шампані. Агнём і штыкамі яны былі адкінуты, утраціўшы палонных. Пад Вэрдэнам артылерыйская бітва аслабела.

Збіты 19 варожых лятуноў. У тым ліку лейтэнант Фосс збіў свайго 46 го.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Між Балтыцкім морэм і Дзьвіной мы у шмат мейсцах адкінулі расейскіе дружыны разведчыкоў.

Чысло палонных у бітве пад Рыгай дайшло 8.900. Дабыча—325 гармат, у тым ліку трэціна—цяжкіх, некольki нагружаных паездоў на шырока- і вузка-калейнай чыгунцы, вялікіе запасы сапёрных прылад, амуніціі і спажыўных прадуктоў, шмат самаходаў і вазоў.

*Фронт эрц-герцога Іозэфа:* На палудзенным заходзі ад Тірбуш-Окна ворагі пяць разоў наступалі на нашы лініі, але былі адбіты с цяжкімі стратамі.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА, 10.IX. **Італьянскі тэатр:** Пры Бэццэка мы ўзялі 50 палонных і 2 кулемёты.

**Албанскі тэатр:** На поўначы і заходзі ад возера Малік перэважываючые расейскіе і французкіе сілы адціснулі нашы варты на поўнач.

Італьянскіе рэкруты 1919 г. прызываюцца на службу ў гэтым тыдні.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ПАРЫЖ. (Гавас). У Сяродземным моры варожая падводная лодка 22 жніўня затапіла параход «Голё II». На ім было 257 асоб. Утанулі 38, у тым ліку 1 сэрбскі афіцэр. Апрыч таго падводная лодка ўзяла ў палон 4 сэрбскіх афіцэроў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані, каналі Ляманш і Паўночным моры: 7 параходаў і 2 парусьнікі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Навакол Англіі ізноў затоплено 27.000 тонн

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у паўночных водах: 7 параходаў і 2 парусьнікі—разам 20.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.